Максім ТАНК

# Журавель і Чапля



КАЗКІ



Мінск
"Юнацтва"
1998



## СЯРОД ЛЯСОЎ НАДНЁМАНСКІХ

Сярод лясоў наднёманскіх,
Густога сасняка
Жыла малая Верачка —
Дачушка лесніка,

Дружыла яна з дрэвамі,
З птушынаю сям'ёй,
Звярынай усялякаю
І з ягадай лясной.

Ды вось аднойчы восенню,
Лес, чуе, не пяе.
І стала ёй нявесела,
Сум агарнуў яе.

Шкада ёй ападаючых
Лістоў і матылькоў,
Шкада ёй адлятаючых
У вырай жураўоў.

І вось пацешыць Верачку
Жучкі прыбеглі спрытныя,
Камарыкі-таўкачыкі,
Мурашкі працавітыя.

Гудуць, звіняць і раяцца
З світання да начы,
Не знаюць, як гаротніцы
Ў бядзе дапамагчы.

Прыбеглі зайцы шэрыя,
Вавёрачкі гуллівыя,
Бабры, лісіцы, вожыкі,
Казулі палахлівыя.

Паселі кругам, раяцца
З світання да начы,
Не ведаюць, як Верачцы
Ў бядзе дапамагчы.

Усёй сям'ёй з'явіліся
Цецерукі стракатыя,
Глушцы, вароны з совамі
Ды з дзятламі насатымі.

Сядзяць на дрэвах, раяцца
З світання да начы,
Не ведаюць, як Верачцы
Ў бядзе дапамагчы.

Пачуў пра гэта павучок,
Пытае:— Што за гул?
Мо я, сябры-таварышы,
Чым-небудзь памагу?

— Ну, дзе табе! Маўчаў бы лепш
Ты ў засені лістка,—
Гавораць і смяюцца ўсе
З малога павучка.

А ён па павуцінačцы,
Пакрыўджаны, палез
Дамоў, пад ліст арэхавы,
У хмызнякі, у лес.

А як настала ночанька,
Серп месяца заззяў,

Ён павуцінку тонкую
Хутчэй снаваць пачаў.

Ад кусціка да кусціка,
Між лапак і галін,
Ад елкі да сасоначкі,
Ад неба да зямлі.

А потым зоры ясныя,
З краплістаю расой,
Павесіў ён званочкамі
На павуцінцы той.

Калі ж праснулася зара
І ветрык прыляцеў,—
Лес залатымі струнамі,
Ажыўшы, зазвінеў.

На звон устала Верачка,
Сцяжынкаю лясной
Ідзе яна і дзівіцца,
Што лес спявае з ёй.

Кране рукой рабіны куст —
Звон чуецца рабінавы,
Кране яна каліны куст —
Звон чуецца калінавы.

А сонца струны павучка
Кране пявучым праменем,—
Заслухаешся, як гудуць
Лясы, бары над Нёманам.





## КАЗКА ПРА МЯДЗВЕДЗЯ

Пад самую восень,
Пад верасень месяц,
Задумаў жаніцца
Мядзведзь шэры ў лесе.

І кажа сватам:
— Мне шукайце пасагу,
Зіму зімаваць —
Трэба мёду і брагі.

А сам я не маю
Ні пчол, ні гароду;
Падушка і тая
З альховай калоды.

За лета снапа мне
Нажаць не ўдалося,—
То хворы ляжаў,
То гнуў дугі, палоззе.

Няхай сабе будзе
Не важная жонка,—
Каб толькі я выжыў
Зіму пад сасонкай...

Хадзілі сваты
Ад Мядзведзя па лесе —
Ўсё дзевак шукалі
Праз верасень месяц.

Хадзілі яны ў Белавеж
Да Зубрышкі,
Да зайцавых дзевак,
Былі і ў Казлішкі.

Там ветліва
Важных гасцей прынімалі,
Крынічнай вадой,
Мурагом частавалі;

Стараліся ўсе ім
У пояс хіліцца —
Сваты былі важныя —
Воўк ды Лісіца!

Калі што не так,
Дык патрапілі б самі
Пагладзіць, дзе трэба,
Памацаць зубамі...

Эх, важныя дзеўкі,
Былі б гаспадыні,
Каб мелі каўбасаў,
Курэй, саланіны,

Нашто і шукаць бы
Што-недзе другое,—
Было б у Мядзведзя
Жыццё залатое.

А то у Зайчышкі пасаг —
Руні жыта,
Зімой -- зледзянелая
Ў полі ракіта.

А у Казлішкі
Трыснёг у імшарах,
Падушкі з ядлоўцаў,
З лістоты паджарай.

Таксама ў Зубрышкі
Па ўсёй Белавежы
Не злічыш стагоў
Непачатых і свежых...

Ды што з іх сватам
І Мядзведзю старому,—
Язык намазоліш,
Нагоніш аскому.

Пачулі сваты —
Ёсць на Нарачы дзеўка:
Ў зялёнай дуброве
Багатая Белка.

Скакуха вясёлая
І гаспадыня,
Якая збірае
Арэхі ў ляшчынах.

Насыпала поўныя куфры,
Як лёду.

Раскусіш — як сонца,
Зярняты — як з мёду.

Сказалі Мядзведзю:
— Ёсць дзеўка з пасагам!
Прыбраўся Кудлаты
Мядзведзь у сярмягу,

У кашулю, якую
Злупіў у Міколы,
Як той бараніў
Ад яго свае пчолы;

Узяў ён лазовы
І кій сукаваты,—
І накіраваўся
Са світай у сваты.

Такое вяселле
Магло толькі хіба
Быць там, дзе над Нараччу
Нашы сялібы.

Ігралі ў цымбалы
Шаршні ды Асвянкі,
Ігралі дзень цэлы
Да позняй заранкі,

А ў гулкіх сасонніках
З Цецерукамі
У тахт Дзятлы ў бубны
Лупілі насамі,

А з вёскі суседняй,
Дзе жытнія гоні
Падыгрываў Певень
На сваёй гармоні.

Лявоніху ёмка
Скакала Лісіца,—
Аж ветрам паджарым
Шумела спадніца.

Як выйшаў Мядзведзь,
Топнуў левай ды правай,
Пайшоў прысядаць —
Замігцелі рукавы.

Скакаць ён так мог бы
Дзён пяць ці мо дзесяць,
Ды толькі атопкі
Стапталіся ў лесе,

Ды нат і ў мяне
Разбарсаліся лапці...
На трэцюю ноч
Пачалі раз'язджацца.

Памалу прайшоў
Ціхі Верасень месяц.
Ляжыць, пажывае
Мядзведзь шэры ў лесе,

Дзе глуш ды сасновае
Шумнае рэха,
А Белачка носіць
Ласункі-арэхі.

Насыпе Мядзведзь іх
У ступу, як лёду,
А зверху бабухне
Дубовай калодай!

Наесца і спіць
У сасновым палацы.
Нат слухаць не хоча,
Хто кажа аб працы.

Пражыў ён па-панску
Нямала так часу,
Пакуль не хапіла
У Белкі прыпасаў.

Ляжыць і раве ён,
Ледзь бор не аглохне:

— Ой, мусіць, я хутка
Не выжыву, здохну!

Лячыла Мядзведзя
Варона-Шаптуха,
І Дзяцел пастукваў
Трубкай у вуха.

І банькі на пяты
Стаўляла Сарока,
Кампрэсы яму
Прыкладала пад бокам...

Ды што не рабілі —
Ўсё не памагала.
Шмат вылізаў лекаў,
Гусіны і сала.

Ды што тыя лекі,
Калі наш Кудлаты
З'еў двух дактароў
З Белавежы лычатых.

Хадзіў тады блізка
Цыган хітры недзе,
Пачуў пра цяжкую
Хваробу Мядзведзя

І кажа: — Ты, Бацю,
Не слухай нікога,
Цыган табе зелля
Парадзіць другога.

Відаць, ты не можаш
Ні сесці, ні легчы,
Не можаш, мой баценька,
Мала ты есці.

Дзе ў лесе дарога,
А збоку паляна,
Лячыў Цыган
Брагай-сівухай да рана;

Яшчэ паіў зеллем
Салодкім, як мёдам,
Спаіўшы Мядзведзя,
Прыкуў да калоды,

Пазней яму ўсыпаў
Бярозавай кашы,
Павёў яго цешыць
Людзей на кірмашах.

Перш доўга Мядзведзь
Касурыўся ды охаў,
А потым зрабіўся
Такім скамарохам!

Дзе толькі не прыйдзе
Пад хаты людскія,
Злятаюцца ўсе —
Маладыя, старыя,

Прыносяць салодкага
Мёду, арэхаў,
А ён давядзе
Аж да слёз і да смеху.

Смяюцца і дзеці,
І куры, і коні,
Як ён у шарахаўкі
Звонкія звоніць;

Смяюцца асверы,
І стрэхі, і хаты,
Як пойдзе скакаць
Пад цымбалы Кудлаты.

Здаецца, няпраўда,
Што людзі гавораць,
Што быў ён раней
Абібокам і хворым...

А Белачка там,
Дзе дуброва густая,
Зноў у свае куфры
Арэхі збірае

І добра хавае,
Каб іх ні мядзведзі
Знайсці не маглі,
Ні вясковыя дзеці.

Ды зоркімі зорка
Пільнуе вачыма
І лускае іх
У сцюдзёныя зімы...

А там, за дрымотным
І казачным борам,
Пявучымі хвалямі
Граюць азёры!

А глянеш навокал —
Такая краіна:
Дзе ступіш — то рэха,
То казка, быліна...

І я іх збіраю,
Як скарбы, якімі
Заўсёды дзялюся
З сябрамі сваімі.





## ГАЛІНКА І ВЕРАБЕЙ

— Галінка-вярбінка,—
Прасіў верабей,—
Мо пакалыхала б
Маіх ты дзяцей?

Галінка не хоча
Дзяцей калыхаць.
— Ідзіце, казулі,
Галінку ламаць!

Казулі не хочуць.
— Ідзіце, ваўкі,
Лавіці, караці
Казуляў такіх,
Якія не хочуць
Галінку ламаць,
Якая не хоча
Дзяцей калыхаць.

Ваўкі не схацелі.
— Прыходзьце, стральцы,
Каб непаслухмяных
Ваўкоў правучыць,
Якія не хочуць

Казуляў карацъ,
Якія ляняцца
Галінку ламаць,
Якая не хоча
Дзяцей калыхаць...

Пайшлі паляўнічыя
Ў лес на ваўкоў:
Спалохана зверы
Пабеглі з дуброў,
Пабеглі казуляў
Лавіць і караць;
Казулі пабеглі
Галінку ламаць,
Галінка ж вярбінка
Са страху хутчэй
Давай калыхаць
Вераб'іных дзяцей.

З тых дзён без спачынку,
Каб кожны быў рад,
Калыша галінка
Малых птушанят.





## ЖУРАВЕЛЬ І ЧАПЛЯ

На адным канцы балота
Была хата Жураўля,
На другім канцы балота
Чапля шэрая жыла.

Надакучыла сівому
Жыць самотна Жураўлю,
Блукаць каля буралому
Па балотнаму гніллю,

Слухаць ноччу жаб бяссонных
Рогат, шум у трысніку,
Перагуды, периазвоны
Камароў у талаку.

Вось задумаў ажаніцца
Ды на Чаплі Журавель
І пайшоў да маладзіцы
Па імшарах, па дрыгве.

Ляпу-чапу, ляпу-чапу,—
Журавель ідзе-брыдзе,
Праз сем дзён прыйшоў да Чаплі
І гаворыць: — Добры дзень!

Ці не хочаш за мяне ты
Выйсці замуж?..— А яна

Кажа: — Што ты,— кажа,— гэта
Сабе выдумаў сп'яна?

Непрыгожы, даўганогі,—
Лепш ідзі, адкуль прыйшоў...—
І пабрыў сваёй дарогай
Сумны Журавель дамоў.

Ды адумалася Чапля,
Што дарма за Жураўля,
За балотнага суседа,
Яна замуж не пайшла.

Ляпу-чапу, ляпу-чапу,—
Ў хату Жураўля ідзе.
Праз сем дзён прыходзіць Чапля
І гаворыць:— Добры дзень!

Ці не возьмеш мяне ў хату?—
Журавель ёй кажа: — Не!
Дзе з такой, як ты, чубатай
Паказацца ў свеце мне?

Шыя выгнута вужакай,
Хараства ні ў чым няма,
І убор твой аніякі,
І нягодная сама.

Калі Чапля з хаты выйшла,
Журавель пашкадаваў,
Што пакрыўдзіў яе лішне,
Што за жонку не узяў.

Ляпу-чапу, ляпу-чапу,—
Па дрыгве і па вадзе
Ізноў сватацца да Чаплі
Журавель ідзе-брыдзе.

І так ходзяць яны ў сваты
Цэлы свой птушыны век,
І стаяць іх воддаль хаты
Па канцах балот і рэк.



## МУХАМОР

На світанні, на зары,
У зялёным гушчары,
Дзе мох сцелецца рабы,
Паспрачаліся грыбы.

На ўвесь лес — зялёны бор
Расхваліўся Мухамор,
Што пад шапкай — маку цвет —
Ён дзяцюк на цэлы свет.

Боты, гузікі гарацъ,—
Яму пары не дабраць
Пад ялінай, пад сасной
Ні багаццем, ні красой.

Мог бы смела быць паслом
Або нават і царом —
Не сядзець век у траве
Ды разумнай галаве!..

— Ты хваліцца лепей кінь! —
Яму радзілі Рыжкі.—
Плёткі чуючы твае,
Падасінавік злуе.

На чырвоны твой язык
Скасурыўся Чашчавік.
Табе ўсыплюць пад бакі
Калі-небудзь Казлякі...

— Мне начхаць на вас, на бор! —
Горда кажа Мухамор.—
Калі біцца — паглядзім,
Хто паставіць на сваім!

А, залёгшы у траве,
Ўсё падслухаў Муравей;
Там, дзе мох і дзераза,
Сыраежцы расказаў.

Ды ў зялёным у бары
Гэта чулі Камары,
Яны вестку разняслі
Ўсім Апенькам па зямлі.

А Ваўнянкам у паўдні
Раззванілі Авадні
Па дубровах, па лясах,
Па мядовых верасах.

Аж прачнуўся на той крык
Пад яленцам Баравік,
Дзе пад мохам, як парсюк,
Спаў, сагнуўшыся у крук.

І пачаў ён развадзіць,
Мудра радзіць і судзіць,
Расшумеўшыся, з-пад траў
Нават галаву падняў...

Дзе мох сцелецца рабы,
Ішлі дзеці па грыбы,—
Асцярожная рука
Падняла Баравіка.

Пайшлі ў кошык Казлякі,
Сыраежкі і Рыжкі...

І на ўвесь зялёны бор
Рагатаў наш Мухамор.

Рагатаў ён і казаў,
Дзе схаваліся між траў
Падасінавік стары,
Дзве Ваўняначкі-сястры...

Як пакінулі ўсе лес
У вячэрняй у імгле,
Шышкай галаву падпёр,—
Затужыў і Мухамор,

Што нявесела яму
Ў цёмным лесе аднаму,
Ў цёмным лесе, у бары
Няма з кім пагаварыць.

Нат смяюцца у паўдні
З Мухамора Авадні,
А зара як дагарыць,
Усё звоняць Камары

Ад сасны і да сасны,
Што ёсць грыб такі дурны —
Мухамор, эх, Мухамор!..
Эх, сасновы цёмны бор!





## ЖУК І СЛІМАК

Пагожым летнім ранкам
На лузе за сялом
Сустрэўся жук аднойчы
З рагатым слімаком.

— Здарова! — жук вітае.—
Куды, браток, ідзеш
І з ракавіны хатку
Нашто з сабой нясеш?

Абцёр слімак пот з твару,
Гаворыць так жуку:
— Нямала перажыць мне
Прыйшлося на вяку.

То сцюжа, то марозы,
То навальніца, дождж,
То часам у дарозе
Захопіць змрок і ноч.

Шукай тады начлегу
Пад нейкім пад кустом...
Вядуць размову гэтак
І раптам чуюць — гром.

Ударыў дождж краплісты.
І жук пабег шукаць
У засені цяністай
Шырокага лістка.

Але на цэлым лузе
Няма страхі нідзе,
І мокры, ледзь жывы ён
Да слімака ідзе.

— Пусці, браток, пагрэцца,
Змок дужа на лугу,
Насіць за гэта хатку
Табе дапамагу.

У ракавіне шчыльнай
Вандроўнікі сядзяць.
Іх нават дождж краплісты
Не зможа ў ёй дастаць.

Але мінулі хмары,
І сонца ўстала зноў.
Жук хатку слімакову
Пакінуў і пайшоў.

Забыўся пра нягоды,
І не наўме жуку,
Што абяцаў паднесці
Ён хату слімаку.





## КОНЬ І ЛЕЎ

*(Народная казка)*

Працаваў буланы Конь
У гаспадара,
З году ў год вазы вазіў
І зямлю араў.

А калі ён пастарэў
Ды нядужым стаў,
Гаспадар яго з двара
Праганяць пачаў.

Уздыхнуў і кажа Конь:
— Ці за шмат гадоў
Я ў цябе не зарабіў
Чатырох падкоў!..

Гаспадар жалеза ўзяў,
Падкаваў Каня.
І пайшоў буланы ўдаль
На сустрэчу дня.

Ён ідзе, мурог скубе,
Ліст духмяны з дрэў.
Раптам бачыць: перад ім
Сам магутны Леў.

— Што ж не кланяешся мне? —
Грозна Леў спытаў.
— Ах, даруй мне, цар звяроў...—
Конь так адказаў.—

Выгнаў гаспадар мяне
Ў гэты ранні час.
Я, галодны, скуб траву,—
Не заўважыў вас.

— Усё роўна вінават
Ты перада мной.
Паглядзі,— гаворыць Леў,—
Што зраблю з табой!

Глыбу з крушні ён схапіў
Ў кіпцюры свае
І так сціснуў, што вада
Пырснула з яе.

— Ну, вядома, ў камні ёсць
Ад дажджоў, снягоў
Шмат вады, што церушаць
Хмары на яго.

Дзіва большае было б,—
Кажа гэтак Конь,—
Каб з гранітнай глыбы мог
Высекчы агонь!

— Бачыш, я дастаў вады,—
Кажа Леў Каню,—
Што мне значыцца дастаць
Нейкага агню!

Спрабаваў Леў высякаць
Іскры, ды дарма,
Толькі кіпцюры ступіў,
А агню — няма.

— Ну, цяпер твая чарга! —
Кажа цар звяроў...

Тут у глыбу ўдарыў Конь
З чатырох падкоў.

Пад аблокі іскраў сноп
З громам паляцеў.
Аж не знаў, як уцякаць
З перапуду Леў.

Вось ляціць ён, ледзь жывы,
А настрэчу Воўк.
Той пачаў цару звяроў
Кланяцца здалёк.

— Перастань ты,— кажа Леў,—
Кланяцца да ног.
Я не цар, бо Конь мяне
Сёння перамог.

Воўк не верыць: — Як, скажы,
Ты паддаўся, Леў,
Бо асілкаў гэткіх я,
Пэўна, з сотню з'еў.

Толькі мне ты пакажы
Гэтага Каня,—
Ад яго нат і касцей
Не пакіну я.

— Не хваліся,— кажа Леў,—
І не смейся лепш:
Як пабачыш ты Каня,
З страху сам памрэш.

Хочаш, я табе яго
Пакажу здалёк...—
І пайшлі глядзець яны —
Леў і шэры Воўк.

Толькі лес прайшлі, тут Леў
Кажа: — Бачу я
За пагоркам, на лугу
Гэтага Каня.

Ты ніжэйшы ростам, Воўк,
Можа, не відаць?
Дай спрабую я цябе
Ды вышэй падняць.

І хоць асцярожна Леў
Друга ў лапы згроб,
Але зіркачы ў таго
Вылезлі на лоб.

— Што ж ты дыхаць перастаў? —
Запытаўся Леў.
— Перш хваліўся, а цяпер
З страху анямеў!..

Тут Леў бразнуў аб зямлю
Шэрага Ваўка
І да логвішча свайго
Кінуўся ўцякаць.

Гэта бачыў гаспадар.
Рад быў дужа ён,
Што ад ворага яго
Выратаваў Конь.

Ён буланага вярнуў
Зноў у стайню — ў дом —
І ўвесь век яго карміў
Сенам ды аўсом.





## ЯК ВЯСНА ПРЫЙШЛА

Як вясна прыйшла ў гаі,
Разбудзіла ручаі
І паклікала ізноў
Птушак з выраю дамоў.
Прыляцелі жаўрукі,
І зязюлі, і шпакі,
Качкі, чэпікі,
З імі ластаўкі.
На лугі, на паплавы
Прыляцелі журавы,
Буслы, кнігаўкі...
Дзе ты тут усіх
Пералічыш іх!

Прыляцелі, ў полі селі,
Яны раюцца,
З вераб'ямі-забіякамі
Спрачаюцца:

— Мы пакінулі вас тут
Зімаваць,
Вас прасілі гаспадарку
Пільнаваць, даглядаць.
А вярнуліся назад —
Непаладкаў шмат!..

Вераб'і на гэта толькі
У адказ усім:
— Чым жа мы тут вінаваты,
Чым, чым, чым?

— Дзе ні глянеш — збожжа столькі
Было восенню багатай
На палях у стагах,—
Гаварыў жаўрук усім.

— Чым жа мы тут вінаваты,
Чым, чым, чым?
— Я пакінула дубровы
Ў іх уборы каляровым,
А цяпер,— зязюлька кажа,—
Трэба зноў мне у ляску,
Ды на кожным на сучку
Будзіць лісцікі: ку-ку!

За зязюляй журавель
Кажа: — Я на поплаве
Шмат быў восенню пакінуў
І брусніц і журавінаў,
А цяпер жа ля ракі
Ані ягадкі...

— Гэта, пэўна, вераб'і,—
Кажуць ластаўкі,—
На палях і лугах
Усё паспасвалі,
Перапілі, пераелі,
Пераласавалі...

Вераб'і тут узлаваліся зусім:
— Чым жа мы тут вінаваты,
Чым, чым, чым?
Нам зімою цяжкавата
Тут было самім.
Чым жа мы тут вінаваты,
Чым?..

Невядома, колькі б часу
Спрэчку птушкі тут вялі,
Але ў гэты дзень са школы
Дзеці міма іх ішлі.
І яны сябрам пярнатым
Расказалі ўсім:
— Вераб'і не вінаваты
Тут ні ў чым,
Бо зялёны ліст дуброў
Сам асыпаўся далоў,

Збожжа з поля звезлі людзі,
Ягады змарозіў студзень
Подыхам сваім.
Вераб'і не вінаваты
Тут ні ў чым.
Памагчы вам трэба, можа?
Вам ахвотна дапаможам.

Калі трэба — пачастуем,
Абаронім, павартуем.
Мы ва ўсіх садах сягоння
Ладзім гнёзды і шпакоўні,
Бо ўсе рады вам,
Дарагім гасцям...

І цяпер у нас заўсёды
У сям'і крылатай згода.
Луг зялёны, сенажаць,
Лес дрымучы, сад і поле,
Сініх рэк, азёр прыволле
Песнямі птушынымі звіняць.





## ВАВЁРКА І ДЗЯЦЕЛ

Спадабалася Вавёрцы жвавай
Дзятлава дупло,
Толькі як займець не знае
Гэта слаўнае жытло.

Як ёй выманіць суседа
За парог?
Мо прывабіць сваім танцам
"Цох-цох-цох"?

Што ты,— Дзяцел запытаўся,—
Скачаш тут?
— А ты, знаць, не чуў
Дзюбаты шалапут.

Цар Арол усім пярнатым
Даў загад
Да яго збірацца сёння
На парад.

Дзяцел доўга не марудзіў,
Фрак уздзеў,
На пушчанскі пляц
Арліны паляцеў.

Прыляцеў, а там — нікога,
Зноў назад,
Здагадаўшыся, што гэта
За парад.

А ў дупле яго — Вавёрка.
Як тут быць?
Трэба зноў сабе
Прыстанішча рабіць,

Бо Скакусе —
Незгаворчывай куме —
Пакідаць дупло такое
Не ў уме.

Цяпер, чуючы, што ў лесе
Хтось дзяўбе,
Знайце: Дзяцел ладзіць
Новы дом сабе.





## ЧАРАПАХА І КАБАН

Жартавалі з Чарапахі
Звяры ўсе,
Што яна хадзіць не ўмее,
А паўзе.

А найбольш Кабан-праныра
Дакучаў:
Недарэкай і гультайкай
Называў.

Аж, нарэшце, Чарапаху
Ўзяла злосць
І лычатаму гаворыць:
— Ягамосць,

Дай мне патрэніравацца
Нейкі час,
І пабачыш: хто круцейшы
Будзе з нас.

Толькі ты не падглядай,
Адно — ў лаўжы.
Пару месяцаў спакойна
Паляжы.

А каб ты не аслабеў,
Не пахудзеў,
Буду ежу дастаўляць табе
Штодзень...

Аж зайшоўся смехам-рогатам
Кабан.
— Добра,— кажа,— пажыву сабе,
Як пан...

Вось залёг ён у цяністым
Гушчары.
Чарапаха ж ад зары
І да зары

Яму носіць бульбу, бручку,
Буракі
Ды з травіцай-медуніцай
Агуркі.

— Ну, ці хутка, недарэка,
Мы з табой
У абнімкі пабяжым
На вадапой?

А яна яму ў адказ:
— Ды пачакай,
Не спяшайся, куме,
Сілы набірай.

Трэба, каб ты быў
І гладак і здароў,
Вось яшчэ табе падкіну
Жалудоў.

І кабан стараўся:
Еў, і еў, і еў.
І нарэшце так ад ежы
Раздабрэў,

Што, калі агаласілі
Марафон,
Ледзь з лаўжа свайго на бруху
Выпаўз ён.

Спрабаваў ён
Чарапаху абагнаць,
Але, скочыўшы за ёю
Крокаў пяць,

Так зарыўся сваім лычам
У мурог,
Што аж сам без дапамогі
Ўстаць не змог.

Я пры гэтым быў і бачыў —
Не мана! —
Як праўчыла Чарапаха
Кабана.





## ІВАН-ДЫ-МАР'Я

Даўно калісьці, вясновым ранкам,
З далінаў Нёмна
Крыжацкі комтур да прускіх замкаў
Гнаў гурт палонных.

Былі між іх тут хлапец з дзяўчынай —
Іх скутых гналі,
Іван-ды-Мар'я ў сваёй краіне
Іх людзі звалі.

Калі пад вечар абоз праходзіў
Мяжу-граніцу,
Калі знікалі ў імгле, на ўсходзе,
Бары, крыніцы...

— Далей не ў сілах ісці, каханы,—
Сказала Мар'я,—
Ісці ад родных дуброў, палянаў,
Лугоў, абшараў.

Іван сказаў ёй:— Даўно пара нам
Спытаці шчасця,
Чым жыць і гінуць век у кайданах,
Лепш вольным пасці...

## ЗМЕСТ





Літаратурна-мастацкае выданне

**ТАНК Максім**

**ЖУРАВЕЛЬ І ЧАПЛЯ**

**Казкі**

*Для дзяцей дашкольнага ўзросту*

Рэдактар *Н. А. Грышкова*
Мастак *В. П. Славук*
Мастацкі рэдактар *Ю. Ц. Цярэшчанка*
Тэхнічны рэдактар *А. В. Русецкая*
Набор і камп'ютарная вёрстка *С. А. Абрамчук*

Падпісана да друку 04.02.98 г. Фармат 60x90 $^{1}/_{8}$. Папера афсетная.
Гарнітура Таймс. Афсетны друк. Ум. друк. арк. 6,0.
Ум. фарб.-адб. 25,0. Ул.-выд. арк. 4,29. Тыраж 6000 экз. Зак. 253.

Дзяржаўнае прадпрыемства «Выдавецтва «Юнацтва»
Дзяржаўнага камітэта Рэспублікі Беларусь па друку.
Ліцэнзія ЛВ №7, 20.12.1997 г. 220600, Мінск, Машэрава, 11.

Мінская фабрыка каляровага друку. 220024, Мінск, Каржанеўскага, 20.